УДК 821.161.3 —193
ББК 84 (4Беи)-5 + 84 (4Беи)-49
Б24

**Барадулін, Р.**
Б24 **Воз вёз лёс**: хуткамоўкі / Рыгор Барадулін. —
Мінск: Радыёла-плюс, 2013. — 64 с.: фат.

SBN: 978-985-448-120-3

Кніга хуткамовак Рыгора Барадуліна. Калі чалавек хоча каб яго лепш пачулі, ён рыхтуецца да размовы з дапамогай хуткамовак.

УДК 821.161.3 —193
ББК 84 (4Беи)-5 + 84 (4Беи)-49

ISBN: 978-985-448-120-3


# Воз вёз лёс



***

Зялёны хутар Верасоўка.
Валун там рос у глыбіню.
Шукала жалуды палёўка.
Туман не давяраў агню.
Лысоню пасьвіў кот Мірон,
І калыхаў калыску сон.
Гублялі конікі падкоўкі,
Дагнаць хацелі хуткамоўкі.
А хуткамоўкі, ўзьняўшы крык,
Хутчэй сьпяшалі на язык.



***

Гулка цокае падкоўка –
Ветраногага каня
Падкавала хуткамоўка,
Каб ня спала цішыня.
Тук-цок –
Гук цёк.
Цок-тук –
Цёк гук.
І выцек...




***

Воз вёз вос.
Хвядос нёс нос.
На носе сядзела муха.
Завіруха кіпела глуха.
Рэха вясёла войкала.
Усё маладзела вокала.



***

Пад нагамі месіва,
За плячыма несіва.
Корч, кроч!
Ноч, збоч!
Крэсіва з крэменя
Выкрасае дрэміну!



***
Мурог скошаны.
Парог зношаны.
Стог завершаны.
Рог заверчаны.
Пірог сьпечаны.
Глог сьсечаны.



***

І на заробак да жаробак
Пайшоў жарэбчык-недаробак.
Відаць, нічога не заробіць,
Як сам сябе
Ён не даробіць.



***

Чакала чайка чаянят.
Ручай чакаў ручаянят.
Чакалі чаяняты,
Пакуль ручаяняты
Памыюць ручаняты.



***

Апёкшыся на вадзе,
Скаргу падаў на вар яд
У суд, дзе судзьдзя – вар’ят,
А два каты – адвакаты.

***

Цягнуцца к гнязьдзечку ціха
Дзеці ручанятамі.
Уцякай, цецеручыха,
Зь цецеручанятамі.



***

Ад крыўды пачарнеўшы, ракі
Крычалі крычма пад карчамі.
Іх сьлёзы чулі хвалі,
Але не ратавалі...

***

Пасьвішчы на пасьвішчы,
Перапёлак пасьвячы,
А карчуючы карчы,
Кукарэкай і крычы.



***

Страх любіць спаць
У крутых вірах.
Вогнішча раскашуецца
На вольных вятрах...

***

У вярблюда два гарбы,
У гарбах скарбы.
У крыўдлівай вярбы
На прымаразкі скаргі.



***

Пракоп пралез праз строп,
Праз крупы, праз муку,
Праз падкруп'е.

***

Што патрэбна, раскумекай:
З дзядзькам дзэкай,
З цёткай цэкай!

***

Сэрца Алесева — зорнае крэсіва,
Полымя з цемрава
Выкрасае ў весева.



***

У кузьні працаваў заядла –
Каваль кувалдай біў кавалда.

***

Стог ня стогне,  стог маўчыць.
Цяля каля куля мычыць.

***

Ля чмяля руж ня руш.
Руш далей да алей.

***

Красу расы лягчэй трымае
І злосьць касы трава трывае.



***

Хісткі мост з крохкіх крыг.
Крок крычаў, крочыў крык.

***

Прамень дасьвецьце сватае
За гарбатымі Карпатамі.

***

Пытаюцца дыстрофікі,
Дзе трапяткія тропікі?

***

У харомах хворы гром
Кроіць хром на чаравікі.



***

Краты гулялі ў карты —
І выйграў самы ўparты.

***

Кроіў гром на боты хром.
Браў разгон паром ля стром...

***

Паспытаў травінку язь,
Ядлаўцовых ягад Ясь.

***

Вітаў вясёлку васілёк.
Вялізны воз ваўка валок.



***

Ёрш сагрэць спрабуе лёд.
Апякае палец ёд.

***

Пабег бы ў гай бугай па рог,
Ды зачапіўся за парог.

***

Прывезла скнара
Сыр з Сыктыўкара.

***

Ходзячы па сьцежках босых,
Зьбіў абцасы часу посах.



***

Вадаспаду даспадобы
Дзёўбаць камень цьвёрдалобы.

***

Каб не цьвялілі дружбакі,
Разьбегліся быкі ў бакі.

***

Схаваўшыся за самавар,
З савою сыч засумаваў.

***

Лапа ў кошкі, лапа ў рысі.
Лепш за лапы не бярыся!



***

Цень ад лямпы лёг у лёх.
Лашчыла ляшчына лог.

***

Міла мяла мяты пачак.
Мяў мядзьведзь, як мякіш, мячык.

***

Не ў сваё ня суй свой нос.
Нехта ўночы ночвы нёс.

***

Пчаляр у пчол найпершы лекар.
Пячэ пухнаты пернік пекар.



***

Як рухнуў бык раптоўна ў роў,
Ад роспачы рагаты роў.

***

У торбе не схаваеш шыла.
Тачыла нож тупы тачыла.

***

Бачыла ў зімовы ранак
Футра фару з-за фіранак.

***

Цялушку спудзіла трашчотка.
Цыбулю ў цёрле цёрла цётка.



***

Шум чуваць з усіх бакоў —
Ля шыпшыны шмат шпакоў.

***

Зьнік шчупак у глыбіні.
Шчаўя ў шчопаць адшчыкні.

***

Ілона з Вірай чакалі вырай.
Дамініка зь Дзінай дзяліліся дыняй.

***

Чапяла вяла вала,
Качарга – качара.



***

Скочыў на пясок сухі
Дождж са страху са страхі.

***

Улез у лес
Ласун лясун.

***

Крупы ў ступе
Тоўк воўк.

***

У пчаляра каля чала
Кружыцца пачала пчала.



***

Гілі ў гальлі
Гараць, як вугалі…

***

Кот, не злавіўшы муху,
Даў павуку па вуху…

***

Калі няма каму,
Сьмялей кулі куму!

***

Сустракала каля Крэва
Каралева кавалера.



***

Парасяткі без перасядкі
З Крычава ў Клічаў ехалі.

***

Варона ляцела ў Верону.
Ці чакала Верона варону...

***

Ластаўка пад страхой шчыруе.
На імшарыне жораў жыруе...

***

Іскры з крэменя
Выкрасае крэсіва...



***

Бегла пералескам сонным
Парася пад парасонам...

***

Адкуль жа жабка прыплыла,
Што квакае каля кала?..

***

Цень сухі хваста нясе
Парася па расе...

***

Ня здужаў бы і мужны Цэзар
Палескай самагонкі цэбар...



***

Шукаюць калачы
Ад каланчы ключы…

***

Няўстрахі вадзе запыліцца.
Агонь любіць сам запаліцца…

***

Каб ягад гарачых набраць,
Прыладзь драбіны да арабіны…

***

Джын у джынсах
З пляшкі ўзьнік…



***

Шышка ўначы паляцела ў карчы,
Падскокваючы...

***

Алесь, красою хворы,
Зьбірае ў торбу зоры.

***

—Ты чыя, абечая?
—Нічыя. Абы-чыя.

***

Шалела залева,
Шукала шакала.



***

Паляшук купіў капшук.

***

На скокі баіцца спазьніцца спадніца.

***

Лёгка працяцца лязу праз лазу…

***

Перад вячэрай падвячоркаваюць.

***

Порах сам сабе вораг…

***

Маёнтак моцны мае Мая.



***
Перапалоханыя ракі крычалі пад карчамі.

***
Картавы гром перапёлку перапалохаў.

***
Каля прыгорка быльлё прагоркла.

***
І лазе балюча маўчаць на лязе.

***
Сойка з узьлеску шле салаўю эсэмэску.

***
Шавец шукаў шаршатку.



***

Бег мех, нёс сьмех.

***

Крыляе груган на карнаты курган.

***

Кабялі вялі кабелі.

***

Рос грыб, крык хрып.

***

Пацеркі расы рассыпаліся.

***

Мусіць прайсьці прасьцірадла праз прас...



***

Шляхціц згубіў хлясьцік…

***

Дождж бег басанож, гром абуў боты.

***

Кот вусаты зьбег з Вушачы.

***

Між меж поўз смоўж.

***

Вяжы вужа вязьмом ажыны.

***

Ляцела куля каля куля.



***
Агонь грыз скручаны дрот.

***
Глыбіў свой грот крот.

***
Зьмецена лісьце вятрамі пры браме.

***
Лётала ля стаўка ластаўка.

***
У кралі каралі ўкралі.

***
Як знайсьці сваю сьпіну на патэльні уюну?

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Барадулін Рыгор (Рыгор Іванавіч)
**Воз вёз лёс**
Хуткамоўкі

фота
Таццяны Мармыш

Адказны за выпуск У. М. Сіўчыкаў
Рэдактар А. В. Камоцкі
Карэктар А. У. Сіўчыкава

Падпісана да друку 25.03.2013.
Фармат 70x100/32. Папера крэйдавая. Друк афсетны.
Ум-друк. арк. 2,79. Ул-выд. арк. 2,59.
Тыраж 100 асобнікаў. Заказ 300.

Выдавец ПУП "Радыёла-плюс".
ЛВ № 02330/0549496 ад 16.06.2009.
Пр. Незалежнасці, 72—12, 220012, Мінск.
siuchykau@gmail.com

Друкарня ТДА "Новапрынт".
ЛП № 02330/052786 ад 25.02.2009.
Вул. Геалагічная, 59/4-10, 220138, Мінск.